Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem

# НАША ВОЛЯ

БЕЛАРУСКІ НЕЗАЛЕЖНЫ ДВУТЫДНЁВЫ ЧАСАПІС

Цана 20 гр.

Рэдакцыя і Адміністрацыя: Вільня, Татарская вул. 15-1

Рэдакцыя прыймае: ад 8—10 і ад 14—16

Падпісная плата: у год 3 зл. за паў году 1,50 злот. квартальна 1 зл.

№ 1 — Вільня 24 сьнежня 1935 г. — Год I

*ВІЛЬНЯ, СЬНЕЖАНЬ 1935 Г.*

Трывожна на сьвеце.

Дзесь у далёкай Афрыцы шалее вайна.

Яна гулкім рэхам адбіваецца ўва ўсіх часьцях сьвету: фашызм белых нясе „культуру“ чорным народам — за тысячы кілямэтраў гоніць войска, цягне арматы, танкі, куляметы, аэрапляны — у імя гэтай культуры і цывілізацыі забіваюць нічым непавінных, старцаў, жанчын і дзяцей. Нападаюць на безаружную першабытную краіну, каб адабраць ад чорных іхні дабрабыт і багацьце. Усё гэта прыкрываецца гучнымі, але фальшывымі фразамі, нібы цывілізатарскай місіі.

На працілежным канцы земскае кулі недзе ў Далёкай Азіі шыкуецца другая вайна.

Мір трымаецца на валаску і ў самай Эўропе.

Усе дзяржавы сьвету ліхарадачна зброяцца.

А крызыс шалее.

Беларускі народ мусіць ведаць праўду аб усіх такой велічы і вагі сусьветных падзеях.

Нясьці гэтую праўду павінна свая незалежная беларуская прэса.

---

Наш народ на сваіх землях апынуўся ў „асаблівых“ умовах.

Ня маючы свайго прадстаўніцтва ў Законадаўчых Установах Польскай Дзяржавы, застаўся зусімі адсунуты ад палітычнага жыцьця. Для народу, бяз роднае школы, без належна пастаўленае пазашкольнае асьветы, у цяжкіх эканамічных цісках крызысовага часу, адмаўляецца часта права на самае існаваньне.

І вось, каб бараніць народныя інтарэсы, каб супольнымі сіламі знайсьці праўдзівыя шляхі да лепшага заўтра, нам ізноўжа патрэбна свая незалежная беларуская прэса.

---

Вонкавыя ўмовы жыцьця не спрыяюць разьвіцьцю культурна-нацыянальнай і палітычна-эканамічнай працы сярод нашага народу. Аднак трэба сьцьвердзіць, што сьведамасьць народная паглыбляецца, што розныя перашкоды на шляхох, па якім плыве народная думка, народная праца над паправай сваёй долі, — ня могуць стрымаць гэтай магутнай плыні: народ жыве сваім жыцьцём і няма на сьвеце сілы, якая-б магла спыніць яго.

Каб адбіваць і паказваць усе бакі гэтае народнае працы, народных імкненьняў і сьведамасьці, каб бараніць народныя інтарэсы ад усякай крыўды, каб злучыць у гэтым высокім парыве ўсё здаровае, сьвежае сіламі ў нашым народзе, усё чэснае і здольнае сярод нашага распыленнага грамадзянства, — нам таксама патрэбна свая беларуская незалежная прэса, такая прэса, якая арыентуецца толькі на свой Беларускі народ.

---

Вось каротка ўсё тое, над чым павінна будзе працаваць і чаму павінна будзе служыць „Наша Воля“.

Далейшыя шляхі падкажа само жыцьцё.

А пакуль — з поўнай верай у свае сілы наперад да лепшае будучыні.

## НАПЕРАД.

Скасаваньне прыгону распачынае ў гісторыі Беларускага народу новую эпоху.

Да гэтага часу беларуская інтэлігэнцыя выходзіла з вынарадаўленых шляхоцкіх вярхоў, далёкіх ад сялянскае масы. Цяжкімі ахвярамі здабываецца магчымасьць для сялянскіх дзяцей пранікаць у муры унівэрсытэтаў. Веда адчыняе сынам вёскі вочы на сьвет. Яны усьведамляюць сабе, хто яны і да чаго павінен імкнуцца беларускі народ... У мурох увыверсытэтаў разлягаюцца гукі беларускае мовы...

І гэтая моладзь, поўная веры ў лепшую будучыню, зьвяртаецца ў бок працоўных гушчаў, каб паказаць гаротнаму земляробу ці работніку шляхі новага жыцьця. Яна нясе ім „простую, мужыцкую мову“, паказваючы, што і вучоныя людзі могуць ёю паразумевацца. І першы раз адчуў гадаваны ў цемры селянін духовую сувязь з інтэлігэнтам.

Але гэтым інтэлігэнтам ужо ня быў той вучоны павіч, каторы з пагардай глядзеў на цемру прыгоньнікаў, баючысь прызнаць, што яна ўзгадавана і замацавана ягонымі рукамі і ягоных папярэднікаў.

Калыскай першай палітычнай партыі Беларускай Рэвалюцыйнай Грамады, пераіменаванай пасьля у Беларускую Сацыялістычную Граmаду, зьяўляецца унівэрсытэцкая моладзь. Рух гэты за галоўную мэту ставіць нацыянальнае вызваленьне Беларускага народу.

Селянска-работніцкія масы адгукнуліся на кліч сваёй інтэлігэнцыі. Студэнцкая моладзь сталася перадавой часткай грамадзянства.

Па няўдалай рэвалюцыі 1905 году беларускае жыцьцё не замірае. Яно разам з друкаваным словам абымае што раз шырэйшыя кругі. З якім задаволеньнем слухаюць сяляне, сабраўшысь у вечары, як хтось граматны чытае беларускую кніжку, якая з далёкага гораду прывандравала аж у забыты куток на вёску...

Адзначаючы свае сьляды крыжамі і попелам спаленых вёсак, перакацілася над беларускай зямлёю вайна. Паасобныя кускі Беларусі апынуліся зусім ў адменных абставінах...

У мурох Віленскага Унівэрсытэту спатыкаецца жменька студэнтаў беларусаў. Каб не загубіцца пасярод іншых народаў, каб супольна працаваць для дабра беларускае працоўнае вёскі, закладаюць студэнты сваю арганізацыю. Так паўстае Беларускі Студэнцкі Саюз. Ад таго часу мінула 15 гадоў, як беларуская унівэрсытэцкая моладзь гуртуецца у сваёй арганізацыі. Саюз дае найбольш актыўных адзінак на полі культурна-асьветнае працы на нашых землях.

З прычыны цяжкіх абставінаў лік студэнтаў беларусаў вельмі нязначны у параўнаньні з лікам беларускага насельніцтва. Таму студэнцкая моладзь павінна пачувацца да тым большай адказнасьці перад грамадзянствам. Яна павінна стацца перадавой яго часткай.

І наша моладзь здае свой экзамен. Яна, змагаючы перашкоды матар'яльнага і маральнага характару, набірае гарту. Паходзячы з сялянскіх кругаў, яна беспасрэдна спатыкаецца з нядоляй вёскі, разумее яе, як ніхто, творыць нераздзельную цэласьць з працоўнымі масамі, — і адгэтуль натуральнае зьявішча — імкненьне да збудаваньня лепшае будучыні.

З якім захопленьнем прымалі сяляне студэнцкую моладзь, каторая ад Т. Б. Ш. ці Студэнцкага Саюзу чытала лекцыі па вёсках: „Аставайцесь у нас, мы вас карміць, адзяваць будзем“, — гаварылі сяляне, праслухаўшы лекцыі студэнтаў у роднай мове. Зразуменьне высокай ролі унівэрсытэцкай моладзі ў грамадзкім жыцьці і зьяўлялась крыніцаю таго урачыстага настрою, які панаваў на абходзе 15-х угодкаў Беларускага Студэнцкага Саюзу, і было прычынаю прысутнасьці у выпоўненай салі лічных прадстаўнікоў старэйшага грамадзянства.

На нас, маладых, ляжыць вялікая адказнасьць за лепшае заўтра. Найбольшы яе цяжар спачывае на той частцы моладзі, каторая мае магчымасьць расшырыць кругазоры свайго сьветапагляду праз чэрпаньне агульналюдзкіх скарбаў веды.

Мы наракаць ня маем права,
Будучыня залежыць ад нас.

В. С-і.

*Найлепшыя Навагоднія пажаданьні пасылае сваім чытачам рэдакцыя „Нашай Волі“.*

## З беларускага жыцьця.

**Выступленьне беларускага хору ў Радыё.** 21 лістапада г. г. Віленская радыёстанцыя надала на усю Польшчу выступленьне Беларускага хору пад кіраўніцтвам гр. Р. Шырмы.

За мала часу дало кіраўніцтва станцыі для беларускае песьні (толькі 15 хвілін), але і гэтае кароткае выступленьне выклікала вялікае зацікаўленьне і захопленьне хараством беларускае песьні і мастацкім яе выкананьнем. Хор прапяяў 8 песьняў, якія глыбака пранiклі ў душы слухачоў і шмат каго змусілі задумацца. Асаблівае уражаньне, як і заўсёды, выклікалі песьні сумнага характару, у якіх адбіваецца ўся душа Беларускага Народу.

Як нас інфармуюць, шмат слухачоў, як з Польшчы так і з заграніцы надаслалі у Вільню пісьмы з падзякаю за выступленьне хору, і з пажаданьнем, каб такія аўдыцыі адбываліся часьцей.

**Пчалярскі часапіс.** Мае ў хуткім часе выйсьці у сьвет наступны 7 нумар „Беларускай Борці“. Гэта адзіны у Польшчы беларускі пчалярскі часапіс, які карыстаецца ня толькі у краі, але і заграніцай добраю апініяй сярод фахоўцаў. Ўзапраўды, азнаёміўшысь са зьместам лістападовага нумару, прыходзіш да пераконаньня, што рэдакцыя мае ў ліку сваіх супрацоўнікаў выдатныя беларускія фаховыя сілы, з якімі не не сорам нам выходзіць у сьвет шырокі. Трэба такжа прывітаць помысл рэдакцыі даваць побач са спэцыяльнымі і артыкулы агульна гаспадарчага зьместу.

**„Калосьсе“.** На днях выходзіць наступны 4 нумар квартальніка „Калосьсе“, прысьвечанага справам літэратуры, навукі і мастацтва. Выдае Бел. Інст. Гасп. і Культуры.

**Узнаўленьне „Летапісу ТБШ“.** Галоўная Управа і Віленскі Цэнтральны Гурток ТБШ пасьля 2-х гадовага перарыву прыступаюць да выдаваньня свайго органу „Летапісу“.

**Новы літэратурны часапіс.** З пачаткам наступнага 1936 году мае выходзіць новы беларускі літэратурны і навуковы часапіс „Маладая Беларусь“.

**Вышлі з друку:** „Хлапец“, В. Адважнага і „Рады хворым і здаро-

## АД РЭДАКЦЫІ.

Адчуваючы балючую патрэбу беларускай прэсы, група беларускай незалежнай інтэлігэнцыі прыступіла да выдаваньня „Нашае Волі“. Мы верым, што нашыя пачынаньні, да якіх мы доўгі час рыхтаваліся, знойдуць прыхільнае спатканьне сярод беларускага грамадзянства.

Дзеля гэтага просім матэр'яльнага і маральнага падтрыманьня з боку вёскі і горада. Рэгулюючы перадплату, зьбіраючы ахвяры, пашыраючы газэту і прысылаючы весткі аб жыцьці сялян, работнікаў, моладзі і нашай інтэлігэнцыі, кожны спаўняе свой грамадзкі абавязак ў адносінах да часопісу.

Заклікаючы усіх да супрацоўніцтва, хочам верыць, што „НАША ВОЛЯ“ з бегам часу стане воляй Беларускага Народу.

**Чытайце і пашырайце сваю газэту.**

## Эгіпет бароніць сваю незалежнасьць.

У палове лістападу ў Эгіпце адбыліся крывавыя падзеі, якія рэхам пракаціліся па ўсей эўрапэйскай прэсе. Раней чым пазнаёміць нашых чытачоў з самымі падзеямі, затрымаемся крыху над тым палажэньнем, ў якім знаходзіцца сучасны Эгіпет.

Эгіпет — краіна земляробскае гаспадаркі. Дзякуючы ураджайнасьці глебы і спрыяючым кліматычным варункам у Эгіпце зьбіраецца ў год 2—3 ураджаі. Галоўным прадуктам Эгіпту зьяўляецца бавоўна. На гэта зьвярнула сваю ўвагу Англія і ў 1882 годзе забрала Эгіпет, які да таго часу знаходзіўся ў залежнасьці ад Турцыі. Захапіўшы Эгіпет, Англія зьвярнула ўсю сваю ўвагу на разьвіцьцё гадоўлі бавоўны, каб забяспечыць сваю бавоўняную прамысловасьць у сырызну і унезалежніцца ад амэрыканскага капіталу. Да 1914 г. Англія зусім бязпраўна гаспадаравала ў Эгіпце, і гаспадаравала так, як і ў іншых сваіх калёніях, вызываючы нездаволеньне падняволенага народу. У 1914 годзе, калі Турцыя ўвязалася ў сусьветную вайну па старане Нямеччыны, Англія афіцыяльна абвяшчае свой пратэктарат над Эгіптам. Па заканчэньні вайны, калі быў кінуты лёзунг самавызначэньня народаў, Англія пачула, што ня будзе ў сілах утрымаць у сваіх руках усе свае калёніі, дык, каб ня страціць іх зусім, пачынае абвяшчаць іх незалежнымі дзяржавамі, якія афіцыяльна ў саюзе з Англіяй твораць Вялікабрытанскую Імпэрыю, а фактычна па старому астаюцца такімі самымі яе калёніямі.

У 1922 годзе атрымаў гэтакую незалежнасьць і Эгіпет. Прызнаючы гетую незалежнасьць Англія пакінула за сабой толькі (!) права 1) абароны сваіх шляхоў камунікацыі (Суэцкі канал), 2) абароны Эгіпту ад захопу яго іншымі дзяржавамі, 3) апекі над інтарэсамі чужаземцаў і 4) прызнаньне умовы з 1899 г. у справе Судану.*) Гэтыя засьцярогі рабілі Англію поўным гаспадаром у „незалежным“ Эгіпце, тым болей, што на чале яго быў пастаўлены паслушны і залежны ад Англіі кароль Фуад і адпаведны Урад.

У 1930 г. кароль распусьціў парлямэнт, знёс дэмакратычную канстытуцыю і пачаў самадзяржаўна правіць Эгіптам, зразумела ў напрамку пажаданым англійскаму ураду.

Партыя эгіпецкіх нацыяналістаў „Вафд“ і партыя эгіпетскіх лібэралаў ужо даўно дабіваліся узнаўленьня дэмакратычнага і парлямэнтскага ладу, але кароль, апіраючыся на падтрыманьне Англіі, на гэта не згаджаўся. З выбухам вайны ў Абісыніі Англія пачула пагрозу сваім інтарэсам у Афрыцы і каб забяспечыцца на выпадак вайны пачала карыстацца тэрыторыяй Эгіпту, каб умацаваць свае пазыцыі ў Афрыцы, апіраючыся на свае „правы і абавязкі“ абароны Эгіпту. Пачаліся розныя вайсковыя прыгатаваньні і работы, павялічыліся вайсковыя гарнізоны ў гарадох Эгіпту, павялічылася англійская флёта ў Александрыіі і г. д. Усё гэта выклікала ў краі дарагоўлю, а адначасна занепакоіла ня толькі левыя палітычны групы, але і эгіпетскіх нацыяналістаў. Усе яны пачулі новую нябяспеку і рашыліся бараніць сваю незалежнасьць.

І вось 15 лістапада с. г. тэлеграф прынес з Каіру (сталіца Эгіпту) весткі аб разрухах, якія пачаўшыся у сталіцы і гор. Танты, перакінуліся і ў шмат іншых гарадоў, з якіх рушылі паходы маніфэстантаў на Каір. Англійская паліцыя рашуча прынялася ліквідаваць разрухі, ужываючы пры гэтым агнястрэльнае аружжа. Тоўпы маніфэстантаў адказалі паліцыі каменьнямі і палкамі. Вынік — 2 забітых і 150 раненых.

Актыўны ўдзел у руху прыняла студэнцкая і вучнёўская моладзь. Паводле афіцыяльнага камунікату падчас падзеяў ў унівэрсытэце выстраламі ангельскай паліцыі было ранена 21 студэнт, з якіх 2-х на другі дзень памёрлі. Унівэрсытэт уладамі зачынены. Наступнага дня адбылася вялікая партыйная сходка партыі „Вафд“. Прысутных на сходцы было больш 30 тысячаў асоб. Калі на трыбуне зьявіліся павадыры партыі, прысутныя спаткалі іх выклікамі „хай жыве забастоўка“, „хай жыве рэвалюцыя“, „хай жыве незалежнасьць“. Адначасна былі чутны варожыя выклікі па адрасу ангельскіх уладаў. Пры заканчэньні была прынята рэзалюцыя, якую Нагас-паша (правадыр „Вафду“) назваў абвешчаньнем вайны праз партыю Вафдыстаў. Рэзалюцыя гэтая заклікае увесь народ, усе арганізацыі і партыі адмовіць супрацоўніцтва з ангельцамі, „пакуль апошнія будуць нарушаць канстытуцыю і незалежнасьць краю“. Далей рэзалюцыя дамагаецца адстаўкі ўраду і адмаўляе падтрыманьне кожнаму ўраду, які згодзіцца на супрацоўніцтва з Англіяй, будзе уважаць гэтакі ўрад за ворагаў краю і будзе вясьці з ім барацьбу ўсялякімі спосабамі.

Паводле тэлеграм з Каіру ад 16-XI, выканаўчы камітэт партыі „Вафд“ унёс пратест у Лігу Народаў супроць нядаўняе заявы ангельскага міністра Хора па эгіпэцкаму пытаньню, якую пратэст прызнае супярэчнай з правамі Эгіпту і якая выклікала разрухі.

21 у Каіры і іншых гарадох адбылася агульная забастоўка ў знак жалобы па забітых падчас разрухаў. Прабег забастоўкі спачатку быў досыць спакойны. Крамы эгіпцянаў былі зачынены. Вялікшыя крамы, якія спачатку не зачыніліся ўсё-ж пад прымусам маніфэстантаў прымушаны былі зачыніцца. Перад галоўнай селібай „Вафду“ з гарачай патрыятычнай прамовай выступіла маладая дзяўчына. Прамова была выслухана праз прысутных з вялікім энтузыязмам

Усе гэтыя падзеі не перашкодзілі аднак вайсковым прыгатаваньням ангельцаў. Работы іх у гэтым напрамку пасоўваюцца наперад, а дасёляшні камандзір суэцкага порту эгіпцянін заменены ангельцам.

Як падаюць апошнія дэпэшы з Каіру, Кароль Фуад, зразумела з дазволу ангельскага ўраду, зьвярнуў канстытуцыю 1923 году. Дэкрэт караля прыняты з задаваленьнем, але народ эгіпецкі не адмаўляецца ад далейшага змаганьня за поўную незалежнасьць.

—·—

*) Па гэтаму дагавору Суданам карыстаюцца супольна Англія і Егіпет.

## Забастоўка ў капальнях вугля.

25—27 лістапада блізу ўва ўсіх капальнях вугля адбылася 3-х днеўная маніфэстацыйная забастоўка.

Прафэсыянальныя Саюзы работнікаў нетракапальнае прамысловасьці выступілі з дамаганьнем скарачэньня рабочага дня пры адначасным захаваньні заработнае платы, поўнае аплаты водпускаў і іншымі. Дзеля асягненьня паразуменьня паміж работнікамі і прамыслоўцамі была створана адумысная камісія з прадстаўніком ураду за старшыню. Працы камісіі пасоўваліся вельмі слаба, а справа скарачэньня рабочага дня не пасоўвалася ні на шаг. Прафэсіянальныя саюзы не маглі з гэтым пагадзіцца і дзеля гэтага склікалі на 21 лістапада агульную конфэрэнцыю дэлегатаў капальняў і гут. Конфэрэнцыя гэтая, пры удзеле каля 1000 дэлегатаў, прызнала, што успомненая справа не пасоўваецца наперад з віны прамыслоўцаў і дзеля гэтага пастанавіла абвясьціць 3-х дноўную протэстацыйную забастоўку, якая і адбылася ў вызначаных днях 25—27 лістапада.

Падаём прабег забастоўкі паводле газэты „Работнік“.

У панядзелак 25-га забаставалі блізу ўсе капальні вугля ўва ўсіх раёнах. З гутнаў Горнага Шлёнску забаставалі толькі тыя, работнікі, якіх належалі да клясавага саюзу. Баставаўшыя работнікі трымаліся бадзёра. Давераныя работнікаў даглядалі за парадкам у капальнях.

Другі дзень забастоўкі выказаў яшчэ больш еднасьць рабочае клясы. Забаставала некалькі капальняў, якія у першым дні не далучыліся да забастоўкі. Конфэрэнцыя дэлегатаў капальняў, пасьля гарачае дыскусыі сцьвердзіла, што неўдача поўнае забастоўкі сярод гутнікаў тлумачыцца толькі тым, што ня ўва ўсіх гутах была ў адпаведны спосаб праведзеная акцыя падгатоўкі да забастоўкі і дзеля гэтага было пастаноўлена склікаць у паасобных гутах сходы

(Працяг на адвароце).

быткі італьянцаў, якія дасталіся ім дарагою цаною.

Як падаюць апошнія тэлеграмы с фронту, абісынскае войска зноў распачала атакі на паўночным фронце. Войска раса Іміру распачала бітву з італьянцамі над ракою Таказзэ і перайшло яе ў некалькіх мяйсцох. Італьянцы панясьлі вялікія страты. Бітва даходзіла да штыкавых атакаў. Баі ідуць каля сьвятога гораду Аксум.

Адначасна вядзецца заўзятая барацьба ў 30 кілямэтр. на паўночны захад ад Адуі і на поўнач ад Макальле. Перамогі на фронце з вялікаю радасьцю і задаволеньнем прыняло усё насельніцтва Адіс-Абэбы.

На паўдзённым фронце ня было ніякіх апэрацыяў.

Па апошнім весткам Макальле ўзята асісінцамі. Італьянцы адтсупаюць, баючысь акружэньня.

## Спроба Лявала ліквідаваць вайну.

Французкі прам'ер Ляваль, які на кожным шагу, нават сваей унутранай французкай палітыкі, выяўляе пэўныя сымпатыі да італьянскага фашызму, падчас італа-абісынскага канфлікту шукае такіх шляхоў да яго ліквідацыі, каб ня была пакрыўджана Італія.

Толькі згоднае становішча усіх сяброў Лігі Народаў змусіла і Лявала прызнаць Італію за нападаючую старану і галасаваць за санкцыі ў адносінах да яе. Але ўсё гэта не перашкодзіла Лявалю і ў далейшым вясьці палітыку аглядаючыся на Мусаліні. І вось у той час, калі ў Жаневе меў сабрацца „Камітэт 12“, каб разглядзець справу забароны ўвозу у Італію некаторых новых прадуктаў, а ў тым ліку бэнзыны, гэтак патрэбнай Італіі для вайсковых мэтаў, Ляваль апрацаваў, у паразуменьні з ангельскім міністрам Хора, новы праект ліквідацыі вайны, па якому аддае Італіі блізу паловы Абісыніі.

Гэты праект зразумела выклікаў абурэньне ня толькі ў Абісыніі і Англіі.

Рада Лігі Народаў, якая была склікана дзеля гэтага на 18 сьнежня, ня выказала захопленьня праектам Лявала — Хора. Ангельскі дэлегат пры Лізе, мін. Эдэн, каб ратаваць гонар Англіі, выракся афіцыяльна гэтага праекту, а сам Ляваль змушаны быў прызнаць, што праект яго не зьяўляецца непаграшымым. Ляваль зазначыў, што калі сучасная спроба ня будзе прынята праз ўсе зацікаўленыя стораны, то Рада Лігі ня будзе усё-ж звольнена ад абавязку шуканьня шляхоў да ганаровае і справядлівае ліквідацыі спрэчкі. Дэлегат Абісыніі зажадаў, каб усе сябры Рады выказалі свой пагляд на праект. Як, падае Рэйтар, праект Лявала—Хора ня будзе прыняты праз Раду Лігі

А пакуль што міністар Хор ужо падаўся у адстаўку. Тое самае, як трэба спадзявацца, чакае і Лявала.

як-жа не радавацца, жывучы сярод такога народу, як не чакаць усяго самага прыгажэйшага ад такога народу“.

Толькі жыць болей не прышлося вялікаму Льву: ён прастудзіўся ў дарозе і памёр на маленькай станцыі Астапава са славамі: „Вы ўсё клапоціцесь каля аднаго Льва, а на сьвеце многа мільёнаў, якія мучацца“.

---

У апошні пэрыяд жыцьця Талстога, пасьля рэвалюцыі 1905 году, у Расеі запанавала ізноў цяжкая рэакцыя. Сталыпінскі „галстук“ (пятля шыбеніцы) павіс на шыі перадавой часткі інтэлігэнцыі, сялян і работнікаў.

Чорная сотня пад кіраўніцтвам члена Дзяржаўнай Думы, абшарніка Пурышкевіча, рабіла дзікія пагромы, лаяла „инородцев“, мазала дзёгцем жыдоўскія брамы, ладзіла антыпольскія (Холмшчына) працэсіі. Палітычная атмосфэра была жудасная: на ход і працу дзяржаўнага апарату мелі найбольшы ўплыў зьдзічэлыя манахі (Іліодор, еп. Гермоген) ды Распуцін. Газэты што дня прыносілі весткі аб сьмяротных казьнях. Усё прыціхла. І толькі Талстой адважыўся адкрыта падаць голас пратэсту. Ягоны артыкул „Не могу молчать“, дзе ён просіць накінуць і яму на шыю намыляную вяроўку, бо яму сумленьне не дазваляе быць спакойным і жыць, калі браты гінуць на шыбеніцах, — яго „Не могу молчать“, як маланка, абляцела наўкола ўсёй зямное кулі. І ні водзін жандарм не пасьмеў зачапіць Талстога,— не пасьмеў, бо Толстой быў сумленьнем не аднэй Расеі, а ўсяго чалавецтва.

Але-ж затое, як ненавідзела яго рэакцыя! Як зацята яна баролася з ім, нападала і бэсьціла!

Гэта зразумела: слугі цемры заўсёды баяцца сьвятла.

Барацьба Армузда з Арыманам*), Белабога з Чорнабогам, сьвятла і цемры, гэта адвечны закон сусьвету.

Сьвятло Талстога сьляпіла і сьлепіць вочы дзецям Чорнабога, дзецям цемры.

Ідэолёг польскага абшарніцтва п. Цат пераймае ненавісьць царскай чорнай сотні да Талстога і робіць апошнага у сваім віленскім „Слове“ (№ 323 з дня 24-XI-1935 г.) ня больш і ня меньш, *як забойцай вялікага народу і вялікай дзяржавы*.

Для п. Цата пагромшчык палякаў жандарм Эўропы, цар Мікалай І-шы ёсьць „rycerz świętego przymierza“, але Толстой, у якога палякі шукалі маральнага падтрыманьня проці царскага гвалту, — забойца. Вось што значыць страх цемры перад сьвятлом!

Для нас беларусаў цатаўшчына ненавісная таму, што імкнецца давясьці наш народ да палітычнай і нацыянальнай сьмерці, робіць тое што рабіла расейская чорная сотня над жыдамі і палякамі. Толькі розьніца ў тым, што Расея мела Талстога, які адважна кідаў праўду ў твар ворагам народу: Цяпер няма такога агульна-людзкаго сумленьня, да якога за маральным падтрыманьнем маглі б зварочвацца прадстаўнікі беларускага народу.

Па нашаму рана таксама чытаць атходную ліганію расейскай нацыі. Яна жыве. Жыве таму, што магла даць сьвету такога Талстога. Аб жывучасьці гэтай нацыі кажуць нам выпушчаныя ў сьвет 11,650,000 кніг твораў Талстога і падрыхтаваны поўны збор яго твораў у 96 томах. Тое самае робіцца і с творамі Пушкіна. Нельга забываць аб вучоных досьледах Паўлава, Капіцы, Шмідта і шмат іншых па ўсім галінам навукі, мастацтва, літэратуры. Ці магла-б дасягнуць такіх вынікаў мёртвая нацыя?

Яркае сьвятло Талстоеўскага геніяя, на якога з подзівам і любоўю глядзіць усё, што ёсьць ўзапраўды культурнага на зямлі, засьляпіла цатаўскія вочы і выклікала гістэрычны лямэнт с цяжкім абвінавачваньнем генія у забойстве сваёй нацыі, — абвінавачваньнем таго, хто зьяўляецца гордасьцю і славай гэтай нацыі,

Талстога праклінае ўсё цёмнае, распустнае, а ўсё жывое, жыцьцёвае яшчэ над сьвежай магілай яго злучылася ў адзін парыў да жыцьця, да сьвятла, да праўды.

Расказваюць, што Талстой адзін раз ішоў да станцыі. Па дарозе на сьнезе ўбачыў напісаныя нейкім хуліганам лаянкі. Ен сьцёр іх і напісаў: „Братья любите друг друга...“ Нам здаецца, што і цяпер 25 год таму адышоўшы са сьвету вялікі геній прадаўжае сваю справу, вялікую справу любові да людзей. Кожным творам, які глыбей трапляе да сумленьня ўсіх народаў сьвету, ён сьцірае брудныя наслаеньні, каторыя здолелі ўпісацца ў адносінах паміж людзьмі і народамі, цёмныя сілы, дзеці Чорнабога.

*В. М.*

*) Бог сьвятла і бог цемры — паводле старажытнай пэрсыцкай рэлігіі стала вядуць барацьбу, якая мусіць даць перамогу сьвету над цемрай.

